www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 58 (4207)**

25 ліпеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна
для "Народнай Волі"

# Не гуляць у вайну з імперыяй

Першыя расійскія падраздзяленні – пакуль што тылавыя – пачалі прыбываць у Беларусь у межах падрыхтоўкі да супольных вайсковых вучэнняў "Захад-2017", намечаных на верасень. Гэтыя манеўры апрыёры паставілі на вушы суседзяў Беларусі. Ды і ў самой краіне шэраг экспертаў, палітыкаў кажуць пра магчымую небяспеку для нашага суверэнітэту. Маўляў, Крэмль можа скарыстаць гэты момант, каб замацавацца на беларускім плацдарме, паставіць "малодшую сястру" (маскоўскі істэблішмент разглядае Беларусь менавіта так) пад мацнейшы кантроль.

Беларускаму кіраўніцтву даводзіцца са скуры лезці, каб давесці і заходнікам, і ўласнаму электарату, што небяспекі няма. *"Тое, што будуць войскі сюды ўведзены, то роўнёнька яны адсюль і сыдуць... Усё пад кантролем"*, – даводзіў у сакавіку Аляксандр Лукашэнка. Спекуляцыямі назваў размовы пра небяспечнасць "Захаду-2017" міністр замежных спраў Уладзімір Макей. Мусіў супакойваць публіку і міністр абароны Андрэй Раўкоў.

Тым не меней яго ўкраінскі калега Сцяпан Палтарак у мінулую пятніцу зазначыў, што тыя манеўры "могуць быць скарыстаны, каб пачаць агрэсію не толькі супраць Украіны, але і супраць любой краіны Еўропы, якая мае агульную мяжу з Расіяй".

Скажу шчыра: я асабіста не веру, што Масква ў верасні захоча ўдарыць з беларускага плацдарма па нашых паўднёвых суседзях. І не толькі таму, што цяжка наступаць праз палескія балоты. Украінская авантура Пуціна па вялікім рахунку ўжо правалілася. Масква думае, як выкараскацца з-пад заходніх санкцый. Таму ні супраць Украіны, ні супраць краін Балтыі ці Польшчы, дзе найболей пераймаюцца з нагоды "Захаду-2017", Крэмль зараз ваяваць не стане. Няма яму патрэбы сёння і акупіраваць Беларусь. Ды і войскаў дзеля гэтага ў межах манеўраў уводзіцца на нашу тэрыторыю замала – недзе тры тысячы чалавек.

Звыш усяго, Пуцін цяпер думае пра свае перавыбары ў сакавіку 2018 года. Гэта было не апошнім матывам, каб замірыцца мінулай вясной з Лукашэнкам. І супольныя манеўры фактычна стануць часткай перадвыбарнага піяру гаспадара Крамля: братэрства па зброі, надзейная абарона заходняга стратэгічнага кірунку і ўсё такое.

Але пры гэтым відавочна, што імперскае мысленне расійскіх эліт нікуды не падзелася. І адзін са свежых доказаў – прайшоўшыя 20 ліпеня дэбаты між сумна вядомым сваімі "подзвігамі" на Данбасе Ігарам Стралковым-Гіркіным ды, бадай, наймацнейшым супернікам Пуціна Аляксеем Навальным. З Гіркіным усё зразумела, гэта салдат імперыі не толькі ў пераносным, але і ў самым літаральным сэнсе. Але ж і Навальны не пярэчыў супраць тэзы пра "падзелены" рускі народ, да якога, маўляў, належаць беларусы ды ўкраінцы. Фактычна апанент Гіркіна даводзіў толькі тое, што "вайсковую аперацыю супраць Беларусі" заўтра распачынаць не варта, бо найперш трэба думаць, як добраўпарадкаваць саму Расію. Ніякім жа прынцыповым асуджэннем імперскіх планаў і не пахла.

Іначай кажучы, нават калі праз нейкі час гаспадаром Крамля стане апазіцыянер Навальны, то беларусы зусім не гарантаваны ад агрэсіі з боку ўсходняй суседкі. Бо мазгі Навальнага працуюць у той самай вялікадзяржаўнай парадыгме, нюансы тычацца хіба што ацэнкі ўмоў, пры якіх "вайсковая аперацыя супраць Беларусі" мэтазгодная.

На жаль, гэта тыповы расійскі погляд на нашу краіну. Нават тамтэйшыя прагрэсісты і лібералы ў масе сваёй разглядаюць нашу незалежнасць як гістарычнае непаразуменне.

Прыбалтам жа, напрыклад, назаўжды ўрэзалася ў памяць, як у 1940 годзе пад маркай абароны ад Гітлера Масква надоўга акупіравала іх краіны. Таму і б'юць цяпер трывогу з нагоды вайсковых гульняў каля сваіх межаў. Як і палякі, што таксама добра памятаюць імперскі бот. Ды і Лукашэнка ў моманты канфліктаў не раз адкрытым тэкстам казаў пра імперскія замашкі ўсходняй суседкі.

Іншая справа, што цяпер фаза замірэння і таму належыць рабіць добрую міну. Але ж пернікаў Расія дае ўсё меней, а палітычныя выдаткі ад хаўрусніцтва з ёй – усё большыя. Сёння Мінск зацікаўлены нармалізаваць адносіны з Еўропай і ЗША, марыць даць на сваёй пляцоўцы старт новаму Хельсінкскаму працэсу. Але супольнае з Расіяй лясканне зброяй ля натаўскіх межаў псуе і так праблемны імідж беларускага рэжыму, абцяжарвае задачу надаць знешняй палітыцы рэальную шматвектарнасць.

Яшчэ ў 1994 годзе ў нашу Канстытуцыю была закладзена мэта зрабіць краіну нейтральнай. Але мы да гэтай мэты нават не наблізіліся. Наадварот, дзеля эканамічных субсідый Мінск увайшоў у шчыльны вайскова-палітычны хаўрус з Масквой, якая дзеяннямі супраць Грузіі, а потым Украіны паказала, што з высокай званіцы плюе на недатыкальнасць суседскіх межаў.

Так што сілавая "аперацыя супраць Беларусі" можа стаць у парадак дня Крамля ў любы момант, хто б там на той момант ні кіраваў. І на добры лад трэба акуратна згортваць вайсковыя гульні з імперыяй, пакрысе адпаўзаць, адкарасквацца ад яе.



(Ілюстрацыйнае фота.)

# «Захад -2017»:
## у Беларусь пачалі прыбываць расійскія вайскоўцы

ЖНІВО-2017

# Будзем з хлебам!

Так, пачатак жніва абнадзейвае. У Гродзенскай вобласці з кожнага гектара намалочваюць 43,7 цэнтнера зерня. На Брэстчыне выходзіць на круг па 35 цэнтнераў. Блізяцца да гэтай лічбы мінскія хлебаробы.

Вядома ж, пакуль збожжавыя ўбіраюцца не з самых лепшых участкаў. Таму ёсць спадзяванні, што ўраджайнасць будзе павышацца.

У Віцебскай і Магілёўскай абласцях жніво разгорнецца ў бліжэйшыя дні.

**Яўгеній КУДРАВЕЦ.**



**Вам трэба прадоўжыць падпіску на жнівень?**
**Сёння Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».**

ЧУЛІ?

## Беларускую атамную электрастанцыю плануецца ўвесці ў дзеянне летам 2020 года

Пра гэта заявіў гендырэктар Дзяржаўнай карпарацыі па атамнай энергіі «Расатам» **Аляксей Ліхачоў** падчас учарашняй сустрэчы з А.Лукашэнкам.

## Беларусь – Украіна:
### арыенцір на штогадовы тавараабарот у 8 мільярдаў долараў. А гэта значыць, што ён павінен узрасці ў 2 разы

СКАЗАНА!



Уладзімір СЯМАШКА,
намеснік прэм'ер-міністра Беларусі:

*– Калі аб'яднаць беларускія і ўкраінскія субсідыі, то мы маем шанец у некалькі разоў павялічыць аб'ёмы паставак нашых трактароў, камбайнаў і іншай тэхнікі. Напрыклад, тыя ж трактары. Ва Украіне трактарны парк каля 200 тысяч трактароў, ён зношаны на 90 працэнтаў. Паводле нашай ацэнкі, кожны год ім трэба абнаўляць па 20 тысяч адзінак. Пакуль мы пастаўляем 3–3,5 тысячы. Думаю, у 3–4 разы павялічыць пастаўкі можна.*

SOS!

# Надвор'е ратуе людзей?

У суботу і нядзелю было дастаткова добрае летняе надвор'е, і ў такія дні, як правіла, людзей цягне да вады. Нярэдка вясёлы адпачынак ля вадаёма заканчваецца трагічна.

*"У прайшоўшыя выхадныя патанулі два чалавекі, і ўсе – у суботу,* – распавёў "Народнай Волі" вядучы спецыяліст Беларускага рэспубліканскага таварыства ратавання на вадзе **Алег БАРАЗНА**. – *У Скідзелі на рацэ Котра патануў 67-гадовы мужчына, а ў Бабруйску трагедыяй закончылася купанне на Бярэзіне для 28-гадовага хлопца. Пры гэтым апошні быў нецвярозы, так што вынік заканамерны. Не разлічыў сілы – бывай, жыццё!"*

Паводле слоў суразмоўцы, апошнім часам стаіць халоднае надвор'е, таму ў пэўным сэнсе гэта і ратуе людзей, якія не вельмі хочуць лезці ў ваду.

*"У 2012–2013 гадах летам былі перыяды, калі толькі за адны выхадныя ў краіне танула каля 50 чалавек,* – дадае спецыяліст. – *Нават у параўнанні з мінулым годам колькасць тых, хто патануў, скарацілася".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВАНДАЛІЗМ!

# Нічога святога...

*У міліцыю звярнулася жыхарка аграгарадка Стараселле Крупскага раёна. Жанчына паведаміла, што на мясцовых могілках адбыўся акт вандалізму.*

Аператыўнікі па гарачых слядах знайшлі падазроных. Гэта былі раней не судзімыя 21-гадовы і 22-гадовы мінчукі.

Паводле версіі міліцыі, хлопцы напярэдадні прыехалі ў госці да бабуляў у Крупскі раён. Потым яны сустрэліся і вырашылі адзначыць свой прыезд. Калі спіртное скончылася, сталічныя госці пайшлі на бліжэйшыя могілкі, каб пашукаць выпіўку там.

На могілках з невядомай прычыны маладыя людзі пачалі разбураць помнікі. Сума прычыненай шкоды складае каля 1000 рублёў.

На юнакоў завялі крымінальную справу за злоснае хуліганства. Ім пагражае да шасці гадоў пазбаўлення волі.

СТОП-КАДР





# Ізноў парад...

У мінулыя выхадныя ў Мінску адсвяткавалі Дзень пажарнай службы.

Не абышлося без рэтраспектывы. Як і без парада выратавальнікаў. У Парку імя Горкага былі прадэманстраваны шматлікія шоу – у тым ліку гонкі на водных матацыклах і палёт на флайбордзе.





